**Вольга Матусевіч**
(Мінск)

# Рыжская мірная дамова ў гістарычнай палітыцы і калектыўнай памяці беларусаў і палякаў

У мінулым кожнага народа ёсць такія падзеі, якія аб'ядноўваюць яго гісторыю з суседнімі краінамі, ці наадварот з'яўляюцца перашкодай на шляху міжнацыянальнага паразумення. Рыжская дамова адносіцца і да першага, і да другога выпадку адначасова. На падставе гэтага пагаднення амаль дваццаць гадоў сумесна існавалі беларусы і палякі ў аднаўленай Рэчы Паспалітай, аднак гэтая падзея падзяліла беларускія землі надвае і стала шмат у чым падставай стварэння неспрыяльнага клімату для развіцця беларуска-польскіх адносін.

Грамадская свядомасць у вялікай ступені вызначае бягучую гістарычную рэчаіснасць і палітыку дзяржавы, у сваю чаргу на яе фарміраванне актыўна ўплывае калектыўная памяць, якая з'яўляецца неабходнай умовай канструявання нацыянальнай самасвядомасці. Гістарычны вопыт, які ўтрымліваецца ў сацыяльнай памяці народа не з'яўляецца адбіткам мінулага, а ўяўляе сабой у большай ступені інтэрпрэтацыю падзей, зміфалагізаваны і эмацыянальна насычаны вобраз значных падзей і знакамітых асоб агульнага для народа мінулага. Гэтыя вобразы могуць ствараецца стыхійна, пад уплывам сям'і і сучаснікаў падзей, ці мэтанакіравана з дапамогай адукацыі і культурных мерапрыемстваў у выніку правядзення ўладай, так званай, „гістарычнай палітыкі" ці „палітыкі памяці". Нярэдка да мінулага звяртаюцца дзеля абгрунтавання і тлумачэння сучасных змен у грамадстве. Гістарычныя ўяўленні і канцэпцыі займаюць не апошняе месца ў ідэйнай палеміцы і палітычнай практыцы.

Калі разглядаць вобраз Рыжскага трактата ў сацыяльнай памяці трэба мець на ўвазе, што ён складаўся з некалькіх аспектаў. Па-першае, Рыжская дамова асацыюецца з усталяваннем беларуска-польскай мяжы; па-другое, з заканчэннем савецка-польскай вайны. І ў залежнасці ад таго, на чым сфакусіравана калектыўная памяць, гістарычныя ўяўленні і ацэнкі могуць змяняцца. Вобразы Рыжскай дамовы ў калектыўнай памяці беларусаў і палякаў неаднолькавыя, як і вынікі і ўмовы яе падпісання. Гэты вобраз нават неаднолькавы сярод саміх палякаў і беларусаў. Відавочна, што ўяўленні аб гэтай падзеі будуць рознымі ў варшавян і палякаў Віленшчыны, у жыхароў Віцебшчыны і Гродзеншчыны.

Аналіз адлюстравання падзеі ў калектыўнай памяці грунтуецца на вывучэнні вобраза, які набыла падзея ў папулярных выданнях і публі-

цыстыцы як люстра грамадскага меркавання і інструмента сацыяльнага ўплыву, а таксама ў падручніках як сродках выхавання моладзі. Вышэйназваныя крыніцы з’яўляюцца па сутнасці каналамі правядзення гістарычнай палітыкі ў дзяржаве. Наколькі вобраз падзеі, які ствараецца навукоўцамі, сродкамі масавай інфармацыі і сістэмай адукацыі, успрымаецца грамадствам могуць прадэманстраваць сацыялагічныя апытанні ці аналіз крыніц масавага паходжання, напрыклад, каментарыі да публікацый у інтэрнэце.

Падмурак сённяшніх гістарычных уяўленняў палякаў пра Рыжскі трактат ствараўся яшчэ задоўга да падпісання пагаднення ў Рызе і вызначаўся тымі інтарэсамі і памкненнямі, якімі кіраваліся палякі пад час савецка-польскай вайны, а таксама грамадскімі стэрэатыпамі адносна „крэсаў” і гістарычнай ролі палякаў на Усходзе.

Вялікую ролю ў самасвядомасці палякаў мела ідэя выканання цывілізацыйнай місіі на Усходзе, апошняга бастыёна каталіцкай Еўропы перад варварствам татара-манголаў, праваслаўнай Масквы, а потым бальшавізму, упэўненасць у культурнай перавазе і маральным праве на рэванш за падзелы Рэчы Паспалітай[1]. Пераважаў погляд на даўнюю Рэч Паспалітую як на польскую дзяржаву, якая давала прытулак іншым народам. Існавала перакананне, што народ гэта катэгорыя не этнічная, а тэрытарыяльная і дзеля выжывання і выканання свайго гістарычнага прызначэння народ павінен мець сваю дзяржаву і дамінаваць у ёй павінен той этнас, які даў назву гэтай дзяржаве[2]. Таму пры стварэнні дзяржавы трэба кіравацца не этнаграфічнымі межамі, а гістарычна-палітычнымі. Пры гэтым так званыя „крэсы” прадстаўляліся ў грамадскай думцы як прастор адвечнай гістарычнай дзейнасці і культурнага ўплыву палякаў[3].

У той жа час польская грамадскасць уяўляла беларусаў у якасці „этнічнага матэрыялу”, які лёгка можна будзе асіміляваць і які не здольны самастойна стварыць уласную дзяржаву[4]. Беларускае насельніцтва ўспрымалася як адменнае сацыяльна, рэлігійна, але не як прадстаўнікі іншага народа.

Характэрнай рысай гістарычнай свядомасці палякаў з’яўляецца мілітарызаванасць. І як трапна адзначыў Ян Рыдэль, тут мы маем дачыненне з дзіўным паяднаннем гераізацыі і ахвярызацыі, услаўлення салдацкай годнасці, культам „польскай зброі”. Большасць гістарычных герояў з’яўляюцца асобамі ваеннымі, у той час як грамадскія дзеячы

[1] M. Dąbrowska, *O zjednoczonej Polsce, jej mieszkańcach i gospodarstwie*, Warszawa 1921, s. 8, 50.
[2] J. Bartoszewicz, *Zagadnienie polityki polskiej*, Warszawa 1929, s. 103.
[3] Там жа, с. 113.
[4] B. Podoski, *Barbaryzacja ziem wschodnich*, Warszawa 1930, s. 7.

адыходзяць на другі план. Аднак гераізм, на якім заснаваны польскі патрыятызм, не быў трыумфальным. Таму гонар часамі перамяжоўваўся з расчараваннем[5]. Гэтая асаблівасць вельмі добра прасочваецца на адносінах да савецка-польскай вайны і яе вынікаў. Пры аналізе вобраза Рыжскай дамовы ў польскай калектыўнай памяці немагчыма не адзначыць уплыў культу Юзафа Пілсудскага, які стаў стварацца яшчэ пры яго жыцці, на ацэнку ў грамадстве практычна ўсіх падзей, павязаных з адбудовай польскай дзяржавы.

Адносіны грамадскасці міжваеннай Польшчы да падпісання пагаднення ў Рызе былі вельмі супярэчлівымі, а часам і дыяметральна процілеглымі. Галоўнае, што адзначалі сучаснікі тых падзей, гэта заканчэнне нарэшце ваенных дзеянняў, што не магло не выклікаць пазітыўнай рэакцыі і аптымізму. Рыжскі трактат разглядалі як рэванш за гады зневажання і прыгнятання[6], як доказ моцы польскай дзяржавы, якая, нягледзячы на знясіленне і ваеннае спусташэнне, змагла перамагчы такога дзяржаўнага калоса як Расія[7]. Але на гэтым станоўчыя водгукі адносна падпісання пагаднення былі вычарпаныя.

Практычна ўсе палітычныя плыні былі незадаволеныя ўмовамі савецка-польскага пагаднення, падкрэслівалі яго кампрамісны і часовы характар, нетрываласць дамовы і разглядалі яе як перадышку, якую трэба выкарыстаць для падрыхтоўкі да новага немінучага ваеннага канфлікту або з бальшавікамі, якія несумненна пажадаюць правесці рэвізію мяжы, або з новай расійскай уладай, якая ўсталюецца пасля падзення бальшавікоў.

Калі разглядаць месца Рыжскай дамовы ў рамках развіцця культу Ю. Пілсудскага, як „будаўніка вялікадзяржаўнай Польшчы”, то, нягледзячы на адмоўнае стаўленне Ю. Пілсудскага да пагаднення, якое ўспрымалася як яго палітычная параза, паколькі поўнасцю перакрэсліла федэратыўную ўсходнюю палітыку[8], новая вайна для падтрымання „іміджу” Ю. Пілсудскага была непажаданай, таму што магла змяніць яго статус пераможца[9].

Увогуле пераважалі крытычныя адносіны да вынікаў перамоў. Найбольшыя нараканні выклікала вызначаная ўсходняя мяжа Польшчы. У грамадскасці была ўпэўненасць, што Рыжская дамова была больш выгадна Расіі і Польшча ўступіла ёй значныя польскія тэрыторыі і гэтым зацвердзіла падзелы Рэчы Паспалітай і адмовілася ад сваёй гіста-

[5] *Dyskusja panelowa*, [w:] *Pamięć polska, pamięć niemiecka od XIX do XXI wieku*, Toruń 2006, s. 168-169.

[6] *Zjednoczona Polska i jej rządy*, Warszawa 1923, s. 42.

[7] *Dziesięciolecie Polski odrodzonej 1918-1928*, Warszawa 1928, s. 79.

[8] M. Pruszyński, *Dramat Piłsudskiego. Wojna 1920*, Warszawa 1999, s. 297, 306.

[9] J. Pajewski, *Budowa Drugiej Rzeczypospolitej (1918-1926)*, Kraków 1995, s. 95.

рычнай місіі на Усходзе[10]. Рыжскі трактат называлі чацвёртым падзелам Рэчы Паспалітай і ён стаў своеасаблівым сімвалам нерэалізаванай перамогі[11].

Менавіта таму рыжская дамова, якая паставіла кропку ў даволі паспяховай ваеннай кампаніі на ўсходзе, не стала сімвалам перамогі ў вайне. Гэтае месца заняла ў сацыяльнай памяці Варшаўская бітва. Сама Рыжская дамова набыла значэнне дыпламатычнай паразы і здрады палякаў на „крэсах" і ўвогуле польскіх інтарэсаў[12].

Польская грамадскасць не ўхваліла гэтай падзеі[13], а паколькі моц гістарычных вобразаў залежыць ад таго на колькі яны ўплываюць на працэс стварэння палітычнай свядомасці, то няма нічога дзіўнага ў тым, што гэты эпізод мінулага быў выціснуты з сацыяльнай памяці, як ганебны. Дзесятыя ўгодкі падпісання Рыжскага трактата на дзяржаўным узроўні не адзначаліся. Ян Домбскі, які ўзначальваў польскую дэлегацыю ў Рызе, надрукаваўся не ў сталічнай газеце, а ў правінцыяльнай гродзенскай „Новае жыццё" і нават вымушаны быў выдаць свае ўспаміны невялікім тыражом за свой кошт[14].

Гістарычная палітыка польскай дзяржавы, асабліва з прыходам да ўлады Ю. Пілсудскага, была накіравана на выцясненне з сацыяльнай памяці нязручнай для нацыянальнай свядомасці і палітычнай рыторыкі падзеі. А калі ўспаміналі Рыжскі трактат або выкарыстоўвалі ў палітычным дыскурсе, то з негатыўным адценнем.

У пасляваенны перыяд, асабліва ў часы Сталіна, палітыка памяці зводзілася да стварэння ідэалагічнай карціны мінулага. Назіраўся поўны разрыў з папярэдняй гістарыяграфічнай традыцыяй і зместам школьнай адукацыі. Аднак палітыка стварэння новай сацыяльнай памяці ў Польшчы была асуджана на правал. Па-першае, старэйшае пакаленне было выхавана ў час міжваеннага грамадскага ўздыму. А чым мацней эмацыянальнае ўздзеянне падзей, тым больш трывалымі будуць вобразы калектыўнай памяці. Па-другое, наяўнасць шматлікай даваеннай літаратуры і падручнікаў у бібліятэках і прыватных зборах забяспечвала беспасрэдны доступ да альтэрнатыўнай версіі падзей, чым тая, якую цэнтралізавана стварала ўлада. А паколькі тэлебачанне на той мо-

[10] E. Czapiewski, *Koncepcje polityki zagranicznej konserwatystów polskich w latach 1918-1926*, Wrocław 1988, s. 118, 122.

[11] Цыт. за: Z. Waszkiewicz, *Kościół katolicki wobec wojny polsko-bolszewickiej i traktatu ryskiego*, [w:] *Traktat ryski 1921 r. po 75 latach*, Toruń 1998, s. 191.

[12] S. Stroński, *Pierwsze lat dziesięć (1918-1928)*, Lwów — Warszawa 1928, s. 290-291; E. Czapiewski, *Koncepcje polityki zagranicznej...*, s. 167.

[13] *Memorjał gen. T. Rozwadowskiego w sprawie granic wschodnich Polski*, Kraków 1930, s. 32-33.

[14] J. Dąbski, *Pokój Ryski*, „Nowe Życie", 1931, № 23; E. Czapiewski, *Koncepcje polityki zagranicznej...*, s. 163.

мант яшчэ не замяніла сямейнага выхавання, то вобразы прыватнай калектыўнай памяці перадаваліся ад бацькоў дзецям. Да таго ж настаўнікі ў школах таксама былі носьбітамі міжваеннай сацыяльнай памяці і замяніць іх усіх пасля вайны на людзей, правераных партыяй і загартаваных у класавай барацьбе, не прадстаўлялася магчымым.

У падручніках першай паловы 1950-х гадоў Польшча паказана як агрэсар, які захапіў чужыя землі. Паказальным з'яўляецца выкарыстанне назваў „Заходняя Беларусь" і „Заходняя Украіна", што загадзя асуджала польскія вялікадзяржаўныя амбіцыі і падкрэслівала этнічную і дзяржаўную прыналежнасць гэтых тэрыторый.

Стварэнне новага вобраза Рыжскага пагаднення суправаджалася спробай знішчыць культ Ю. Пілсудскага ў публічнай калектыўнай памяці, ачарніць яго асобу ў гістарычнай літаратуры і падручніках, і нярэдка з выкарыстаннем простай фальсіфікацыі. У выніку павінен быў стварыцца вобраз савецкай ваеннай і дыпламатычнай перамогі над буржуазнай уладай Польшчы. Калі такі падыход да справы выявіўся неэфектыўным, вырашана было перайсці ад тактыкі змены вобраза падзей у сацыяльнай памяці да арганізацыі забыцця непажаданых гістарычных дзеячаў і нязручных да рэінтэрпрэтацыі падзей. Так, у падручніках знікла імя Ю. Пілсудскага, звесткі аб Варшаўскай бітве і згадка пра трактат і яго ўмовы[15].

Наогул, у перыяд ПНР з прычыны прапаганды ідэі савецка-польскага братэрства тэма савецка-польскага канфлікту была палітычна непажаданай і замоўчвалася ў публікацыях, што не спрыяла стварэнню цэласнай не супярэчлівай публічнай сацыяльнай памяці. Перамога ў савецка-польскай вайне завяршыла аднаўленне польскай дзяржавы, была значным ваенным поспехам і таму павінна была ўспрымацца пазітыўна, быць падставай нацыянальнага гонару, але, калі ўлічваць палітычныя рэаліі пасляваенных часоў, улады не маглі дазволіць акцэнтаваць увагу на перамозе над савецкай краінай.

У 1980-я гады з узмацненнем у грамадстве апазіцыйных настрояў гісторыя стала сродкам дэлегалізацыі камуністычнай улады праз крытыку афіцыйнай версіі мінулага. Барацьба за палітычныя змены набыла форму саперніцтва розных сацыяльных памяцей і розных месцаў памяці. Гэтая барацьба выявілася як спрэчка з нагоды таго, якімі эпізодамі гісторыі павінен ганарыцца народ, а якіх сароміцца.

У пачатку 1990-х гадоў відавочна назіралася рэактуалізацыя вобразаў сацыяльнай памяці міжваеннага перыяду. Вялікую ролю ў грамад-

15 H. Składanowski, *Odzyskanie niepodległości przez Polskę w podręcznikach do nauki historii w okresie stalinowskim*, [w:] *Drogi do niepodległości. Ziemie polskie w dobie odbudowy państwa Polskiego*, Toruń 2003, s. 277-278.

скай свядомасці і палітычнай практыцы зноў пачаў адыгрываць культ Ю. Пілсудскага ў тым ліку як „абаронцы Еўропы ад бальшавізму”. Савецка-польская вайна таксама вярнула ў публічнай сацыяльнай памяці абарончы характар[16]. У выніку знешнепалітычнай пераарыентацыі ў Польшчы пачала актыўна праводзіцца палітыка фарміравання „еўрапейскай” свядомасці польскага насельніцтва, падкрэсліваецца прыналежнасць палякаў да заходнееўрапейскай гістарычнай супольнасці. У такой сітуацыі найбольш запатрабаваным выявіўся вобраз Польшчы — абаронцы не столькі сваёй незалежнасці ад Расіі, колькі еўрапейскага кантынента ад экспарту сацыялістычнай рэвалюцыі[17].

З вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што ў польскім грамадстве пераважае ўяўленне аб Рыжскай дамове як аб нявыкарыстанай ваеннай перамозе (Польшча магла атрымаць больш)[18]. Такое стаўленне да Рыжскай дамовы, згодна з меркаваннем Эдмунда Левандоўскага, упісваецца ў нацыянальны характар палякаў, якому ўласцівы, комплекс нявыкарыстаных магчымасцей. „Палякі ўмеюць біцца, але не могуць бароцца; таму як правіла выграюць бітвы і прайграюць войны”[19]. Шмат хто, асабліва з старэйшага пакалення і палякаў у сучаснай Літве, успрымаюць гэтае пагадненне як паразу[20].

На самой справе можна канстатаваць, што Рыжская дамова не з’яўляецца месцам памяці для палякаў і не азначае перамогу ў савецка-польскім канфлікце. Гэтую падзею не ўшанавалі ў назве вуліц, не збудавалі помнік, святкаванне ўгодак мае выключна навуковае вымярэнне. Падпісанне пагаднення ў Рызе не ўключана ў камемаратыўную практыку, якая павінна ўзнаўляць вобраз падзеі ў грамадскай свядомасці і захаваць у калектыўнай памяці. Месца Рыжскага трактата ў сацыяльнай памяці заняла Варшаўская бітва, якая стала для палякаў кульмінацыяй савецка-польскай вайны.

[16] M. Składanowska, *Odzyskanie niepodległości przez Polskę w podręcznikach do nauki historii w szkole podstawowej po przełomie 1989 roku*, [w:] *Drogi do niepodległości. Ziemie polskie w dobie odbudowy państwa*, Toruń 2003, s. 283-285.

[17] J. A. Goclon, *W obronie Europy. Wojna z bolszewicką Rosją w 1920 roku*, Toruń 2006, s. 259, 264; R. Wojna, *Historyczne znaczenie zwycięstwa Polski w wojnie 1920*, [w:] *Rola i miejsce Polski w Europie 1914-1957*, Warszawa 1994, s. 61, 63.

[18] Аб гэтым сведчаць публікацыі ў інтэрнэце і каментарыі да іх. *90-lecie Traktatu Ryskiego*, http://www.polskieradio.pl/7/179/Artykul/329469; *Traktat ryski — sukces czy porażka?* http://www.blogpress.pl/node/2730;*Traktat ryski*, http://pl.shvoong.com/books/474600-traktat-ryski; *Czy traktat ryski można uznać za zdradę?* http://pacnorthjersey.org/czy-traktat-ryski-mozna-uznac-za-zdrade; *Traktat ryski, czemu tak słabo negocjowaliśmy*, http://www.historycy.org.

[19] E. Lewandowski, *Charakter narodowy Polaków i innych*, Warszawa 2011, s. 213, 216.

[20] E. Czapiewski, *Koncepcje polityki zagranicznej...*, s. 157.

Па другі бок мяжы ў савецкай краіне адразу пасля падпісання мірнага пагаднення ўлады актыўна праз прэсу пачалі кампанію па стварэнню вобраза Рыжскай дамовы ў грамадскасці. Выклікана гэта было няўпэўненым становішчам бальшавікоў, таму яны не маглі ўголас прызнаць, што савецкая ўлада саступіла буржуазнай Польшчы. Дамова не павінна была выглядаць як вынік перамогі капіталізму над камунізмам. Мір з Польшчай прадстаўляўся як новы доказ моцы савецкіх рэспублік, якія за такі кароткі час змаглі дамагчыся міру. „Сёння савецкія рэспублікі з'яўляюцца сілай, з якой сусветны капітал вымушаны лічыцца. І таму ўмовы пагаднення маюць другараднае значэнне”[21]. Гэтая заўвага сведчыць аб масавым незадавальненні і паражэнчых настроях у грамадстве. Аб устанаўленні мяжы гаварылася, але ўвага на гэтым не акцэнтавалася і колькасць тэрыторыі і насельніцтва, якія адыходзілі Польшчы, не афішаваліся.

Даволі распаўсюджанымі былі артыкулы, галоўнай мэтай якіх было процістаяць меркаванню, што Рыжская дамова паклала канец сусветнай рэвалюцыі і гэта банкруцтва ідэі камунізму. „Што значыць падпісанне дамовы: ці мір, у поўным сэнсе гэтага слова, ці далейшую барацьбу, толькі ў іншым выглядзе? ... тое, што савецкія рэспублікі заключылі мірнае пагадненне значыць, што яны не хочуць ваеннай барацьбы. Но эканамічная і палітычная барацьба будзе працягвацца”[22].

Калі ўлічваць вялікую колькасць апраўдальных артыкулаў і адсутнасць свабоды слова, можна зрабіць выснову, што грамадскасць была незадаволена вынікамі перамоў і з дапамогай інфармацыйнай кампаніі ўлады хацелі змяніць гэтае становішча. Але ж правальны для ўлад характар пагаднення быў відавочны і трэба было грамадскае абурэнне, калі яго немагчыма ліквідаваць, то накіраваць на вінаватых і вінаватымі былі прызначаны буржуазія і памешчыкі Польшчы. Гэта садзейнічала распаўсюджванню рэваншысцкіх настрояў, якія былі папулярнымі і сярод савецкага кіраўніцтва. Адносна палякаў распаўсюджанымі былі эпітэты „захопнікі”, „інтэрвенты”, „акупанты”.

Рыжская дамова непасрэдна прычынілася да фарміравання стэрэатыпа паляка сярод беларусаў. Негатыўнае стаўленне беларускага насельніцтва да палякаў мела сацыяльныя карані, а менавіта падуладнае становішча беларуса-селяніна адносна пана-паляка. Не кранаючы пытання этнічнай прыналежнасці ўладальнікаў маёмасці на беларускіх землях, адзначым толькі, што польскасць у грамадскай свядомасці аса-

[21] *Nowe zwycięstwo*, „Młot = Молот: орган часовага бюро ЦК РКП(б)”, 20 marca 1921, s. 1.

[22] *Pokój czy walka*, „Młot = Молот: орган часовага бюро ЦК РКП(б)”, 24 kwietnia 1921, s. 1.

цыявалася з прывілеяваным саслоўем. Пасля падпісання Рыжскай дамовы да сацыяльнага вобраза паляка-пана далучыліся вобразы палякаасадніка і паляка-дзяржаўнага служачага[23], якія таксама не стваралі пазітыўнага ўспрымання палякаў беларусамі. Асадніцтва як накірунак дзяржаўнай палітыкі каланізацыі „ўсходніх крэсаў" сябе скампраметавала досыць хутка, праца мясцовай польскай адміністрацыі гэтаксама выклікала шмат нараканняў, што неспрыяльна адбівалася на міжэтнічных адносінах. Захады цэнтральных польскіх улад, якія падкрэслівалі прывілеяванае становішча ў краіне менавіта польскага насельніцтва, давалі падставы для „дэманізацыі" польскай унутранай палітыкі на „крэсах". Друк нацменшасцей у II Рэчы Паспалітай падкрэсліваў ваяўнічы нацыяналізм палякаў, пагардлівае стаўленне да непалякаў. У Савецкай Беларусі акцэнт рабіўся на класавым падыходзе, адзначалася процілеглае стаўленне да беларускага пытання пануючага класа буржуазнай Польшчы і сялянска-работніцкай масы і прагрэсіўнай інтэлігенцыі, што адпавядала духу пралетарскага інтэрнацыяналізму.

У міжваенны перыяд факт падзелу беларускіх і ўкраінскіх зямель стаў аргументам у вырашэнні бягучай унутранай і знешняй палітыкі савецкай дзяржавы. Гэтая практыка актыўна выкарыстоўвалася і ў час Другой сусветнай вайны на перамовах з заходнімі краінамі. У пасляваенны час падкрэсліваўся грабежніцкі характар пагаднення менавіта з боку Польшчы, ігнараванне апошняй права нацый на самавызначэнне, несправядлівасць падзелу Беларусі і шматлікія парушэнні палякамі ўмоў трактата, што апраўдвала савецкія дзеянні ў верасні 1939 г. У масавых уяўленнях вакол Рыжскай дамовы імкнуліся сканцэнтраваць не толькі страты тэрытарыяльныя, але і эканамічныя, дэмаграфічныя і культурныя негатыўныя наступствы для беларусаў.

У 1990-я гады Рыжскі мір захоўваў за сабой значэнне падзелу беларускіх зямель, акта гістарычнай несправядлівасці, якая была выпраўлена ў 1939 г. Аднак са старонак часопісаў сталі адзначаць несправядлівасць у адносінах да беларусаў не толькі з боку Польшчы, але і савецкай улады. Звярнулі ўвагу на факт адсутнасці беларускай дэлегацыі на перамовах і з'явілася меркаванне, што ў такіх абставінах Рыжскі трактат беларусаў ні да чаго не абавязваў[24]. Дамоўленасці ў Рызе разглядаюцца ў цеснай сувязі з пачаткам Другой сусветнай вайны, паколькі іх кампрамісны характар, відавочнае, а часам дэманстратыўнае іх невыкананне не магло стаць фундаментам трывалага мірнага суіснавання суседніх краін.

[23] А. Кротаў, *Беларускі стэрэатып польскага народу*, „Беларуская мінуўшчына", 1996, № 4, с. 17-18.

[24] У. Ладысеў, П. Брыгадзін, *Рада БНР пасля Рыжскага дагавора 1921 г., ці канец нацыянальнага рамантызму*, „Беларускі гістарычны часопіс", 1997, № 1, с. 50.

Для беларускай апазіцыі, якая звяртаецца да спадчыны Беларускай Народнай Рэспублікі і імкнецца быць прадаўжальнікам палітычнай традыцыі БНР, а таксама для прыхільнікаў „незалежніцкай" плыні ў гісторыі Беларусі перамовы ў Рызе з'яўляюцца доказам здрады савецкай улады беларускіх інтарэсаў і шчырай і самаадданай барацьбы БНР за беларускую незалежнасць[25], кіраўніцтва якой распачало актыўныя дзеянні, каб спачатку паўплываць на ўмовы пагаднення, а калі не атрымалася, зрабіла захады, каб Рыжскі трактат не быў ухвалены міжнароднай супольнасцю. Стварэнне апазіцыйнай альтэрнатыўнай сацыяльнай памяці, са сваімі месцамі памяці, не завяршылася поспехам. Па зразумелых прычынах гэтая версія сацыяльнай памяці не з'яўляецца запатрабаванай у грамадстве.

Сацыяльная памяць, якая складаецца з масавых уяўленняў аб мінулым, — гэта канструкцыя дастаткова кансерватыўная. Змена яе залежыць не столькі ад гістарычнай палітыкі, колькі ад змены месца ў грамадстве сацыяльных груп, носьбітаў пэўнай версіі мінулага. Асабліва гэта тычыцца так званай камунікатыўнай памяці, якая ўключае падзеі, сведкі якіх яшчэ жывыя. Калі ўлічваць, што на Беларусі не адбылося радыкальнай ломкі сацыяльнай структуры, то няма нічога дзіўнага ў тым, што не адбылося кардынальных змен у гістарычнай свядомасці беларусаў у параўнанні з савецкім перыядам, як напрыклад у суседняй Украіне ці ў прыбалтыйскіх краінах. Тут яшчэ трэба адзначыць велізарную праблему папулярызацыі вынікаў гістарычных даследаванняў. Гістарычная літаратура слаба запатрабаваная сярод беларусаў і гістарычная навука развіваецца практычна ізалявана ад грамадскасці па прынцыпе „навука для навукоўцаў".

З усіх вынікаў падпісання Рыжскай дамовы самым відавочна негатыўным наступствам для савецкага боку было ўключэнне часткі беларускіх і ўкраінскіх тэрыторый у склад Польшчы. Менавіта на гэты факт звярталася найбольшая ўвага ў прэсе і навуковых выданнях пачынаючы з міжваеннага перыяду. Выкрыццё прычын падзелу беларускіх этнічных зямель было вельмі непажаданым, паколькі кампраметавала савецкі бок, які вёў перамовы з Польшчай. Таму ў рамках гістарычнай палітыкі гэтая тэма была табуіравана ў навуцы і замоўчвалася ў грамадстве. У ланцужку „вайна — мірнае пагадненне — наступствы" другое звяно выпадала з грамадскай свядомасці. Была вайна, у выніку якой Польшча захапіла частку беларускай тэрыторыі, а чаму захапіла і чаму менавіта такую частку на гэтым ўвага не акцэнтавалася.

[25] М. Іваноў, *Рыжскі мір і эміграцыйны ўрад БНР*, [у:] *Беларусь паміж Усходам і Захадам. Праблемы міжнацыянальнага, міжрэлігійнага і міжкультурнага ўзаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу*, ч. 1, Мінск 1997, с. 274-280; Л. Цімошык, *Адно цэлае — 90 гадоў таму Беларусь падзялілі*, http://arche.by/by/35/30/5092.

Калі разглядаць выніковасць савецкай гістарычнай палітыкі ў Беларусі, то яна мела поспех, але перабольшваць яго ў сучасных умовах не трэба. Адбываюцца змены ў сацыяльнай памяці, асабліва моладзі, што з'яўляюцца вынікам змены сацыяльных рамак функцыянавання калектыўнай памяці ў Беларусі. У беларусаў, як і ў палякаў, але па іншых прычынах Рыжскі мір таксама не стаў месцам памяці. Словазлучэнне „Рыжская мірная дамова" ні аб чым не гаворыць маладому пакаленню беларусаў. Па выніках апытання моладзі амаль у 95% рэспандэнтаў гэтае словазлучэнне не выклікае ніякіх асацыяцый. 48% не ведаюць, ці мела гэтая падзея адносіны да Беларусі, 39% лічаць, што ніякага ўплыву на лёс беларусаў яна не аказала. Віну за падзел беларускіх зямель у выніку савецка-польскай вайны больш за 40% рэспандэнтаў ускладае на бальшавікоў, і толькі 27,5% лічаць вінаватымі палякаў. На запытанне, што азначае Рыжскі трактат для беларусаў, найбольш частымі адказамі былі: падзел беларускай тэрыторыі; доказ таго, што беларусы нічога не вырашаюць на сваёй зямлі (і гэта варта асаблівай увагі!); гістарычную несправядлівасць. А адказ, што Рыжскі мір даваў права на ўвядзенне войск у верасні 1939 г. на тэрыторыю Польшчы і далучэнне Заходняй Беларусі да БССР, выявіўся самым незапатрабаваным[26].

У беларусаў і палякаў розныя адносіны да падзей агульнай гісторыі і гэта натуральна. Жаданне аднаго народа, каб яго нацыянальная памяць успрымалася суседнімі народамі як адзіная праўдзівая версія мінулага, здаецца абсурдным і, зразумела, што можа рэалізавацца толькі ў выніку поўнай ці частковай страты палітычнай незалежнасці суседняй краіны. Адменныя сацыяльныя рамкі стварэння калектыўнай памяці выключаюць магчымасць іх напаўнення аднолькавым зместам. А гістарычная адукацыя, накіраваная на стварэнне масавых уяўленняў аб мінулым, у кожнай дзяржаве этнацэнтрычная. Тым больш дзіўнай падаецца прапанова распрацоўкі часовай канцэпцыі агульнай гісторыі палякамі разам з прадстаўнікамі *часткі беларускага насельніцтва і польскай нацыянальнай меншасці Беларусі*[27]. І калі пагадзіцца з Зояй Капельман, што калектыўная памяць — гэты не што іншае, як „нас возвышающий обман", то наўрад ці сумесная часовая альбо сталая канцэпцыя польска-беларускай гісторыі будзе ў стане ўзвысіць ва ўласных вачах і палякаў, і беларусаў. Занадта часта ў мінулым інтарэсы гэтых народаў разыходзіліся.

Дасягнуць кампрамісу ў навуковым адлюстраванні гісторыі, а тым больш у грамадскім успрыманні падзей мінулага розных народаў не

[26] У апытанні прыняла ўдзел 131 асоба ва ўзросце 19-20 гадоў.

[27] Z. Gluza, *Powinności polityki historycznej*, http://forum.karta.org.pl/?page_id=233.

магчыма. І ці патрэбна? Галоўным з'яўляецца не выпрацоўка агульнай карціны мінулага, а разуменне і павага пазіцыі апанентаў у гістарычнай спрэчцы.

**Streszczenie**

W artykule dokonano analizy kształtowania się zbiorowej świadomości Białorusinów i Polaków na temat traktatu ryskiego. Rozpatrzono przyczyny tworzenia się pewnych wyobrażeń o ryskim traktacie pokojowym w literaturze historycznej i popularnonaukowej oraz w prasie. Przeanalizowane zostały zmiany w polityce historycznej i ich wpływ na zaistnienie ustaleń ryskich w świadomości społecznej. W wyniku różnych przyczyn politycznych zarówno w Białorusi, jak i w Polsce traktat ryski okazał się wydarzeniem niewygodnym do interpretacji, traktowano go jako hańbę, dlatego polityka historyczna obu krajów dążyła do wymazania tego wydarzenia ze świadomości zbiorowej społeczeństwa. Podpisanie traktatu ryskiego nie zostało włączone do praktyki kommemoracyjnej społeczeństwa białoruskiego i polskiego. Traktat ryski nie jest upamiętniany ani przez Polaków, ani przez Białorusinów, mimo że jego rezultaty w wielkim stopniu wpływają na współczesne stosunki polsko-białoruskie.

**Summary**

The article analyzes the formation and development of Belarusians and Poles' collective awareness as far as the Treaty of Riga is concerned. The reasons for the creation of certain visions concerning the Peace Treaty of Riga as depicted by historical and popular science literature as well as the press are examined. Changes in historical policy and their impact on the existence of Riga's provisions in social awareness are analyzed. In result of different political causes, both in Belarus and Poland, the Treaty of Riga appeared to be the event which was inconvenient to interpret; it was treated as dishonor, therefore historical policy of both countries aimed at the erasure of this event from the society's collective awareness. The act of signing the Treaty of Riga was not included into the commemorative practice of the Belarusian and Polish society. The treaty is commemorated neither by the Poles nor the Belarusians despite the fact that its effects influence current Polish-Belarusian relations to a great extent.

**Matusiewicz Wolha** — doktor historii, asystent w Katedrze Filozofii i Prawa Białoruskiego Państwowego Uniwersytetu Technologicznego w Mińsku. Zainteresowania badawcze: historiografia polska, historia białoruskiej mniejszości narodowej w Polsce i polskiej w Białorusi, kształtowanie się świadomości historycznej oraz polityka historyczna w Polsce i Białorusi.